**ПРЫВАТНЫЯ АХОЎНЫЯ**




АГЕНЦТВЫ: БЛЕФ АЛЬБО?..

СТАР. 5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

СТАР. 8

**АЛІМПІЯДА-2012:**

15 МЕДАЛЁЎ МАКСІМУМ!



БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

12.07.12-18.07.12 г.

# ВЫКРУТАСЫ ВАКОЛ МЯДЗВЕДЗІКАЎ

**Афіцыйныя асобы і прапагандысты дэманструюць цуды слоўнай эквілібрыстыкі, не пацвярджаючы, але і не абвяргаючы факт "плюшавага дэсанту".**




*Мядзведзікі на гэты раз сталі не такімі ўжо бяскрыўднымі*

## АБ ВІЗУАЛЬНАЙ ФАЛЬСІФІКАЦЫІ

На гісторыю з мядзведзікамі, якіх шведы раскідалі з самалёта над Беларуссю, першай з афіцыйных устаноў адрэагавала Міністэрства абароны РБ. 5 ліпеня яно паведаміла пра тое, што "проводится проверка информации, размещённой рядом интернет-источников, о якобы имевшем место несанкционированном полете над территорией Беларуси иностранного авиационного средства", аднак адразу запэўніла: "Исследуя предоставленные фото- и видеоматериалы, эксперты выявили грубую работу с использованием элементов визуальной фальсификации".

Па стане на 12 ліпеня (на момант, калі рыхтаваўся гэты артыкул), пра вынікі праверкі ніякіх звестак не распаўсюджвалася. Хаця, здавалася б, тыдня больш чым дастаткова для таго, каб высветліць, што насамрэч адбылося.

Пакуль што камандуючы паветранымі войскамі Беларусі Дзмітрый Пахмелкін у размове з агенцтвам "Інтэрфакс" абмежаваўся наступнай высновай: "Это была 100-процентная провокация против Беларуси при поддержке иностранных спецслужб. Наши средства ВВС и ПВО не подтвердили нарушения воздушного пространства неизвестным самолётом".

> "Вельмі складана стварыць такую віртуальную карцінку, калі факта на самай справе не было, — заявіў былы міністр унутраных спраў і супрацоўнік Савета бяспекі ў размове з "Радыё Свабода".

Не пацвердзілі, але і не абверглі… Такую ж лінію гне адзін з галоўных афіцыйных прапагандыстаў краіны Вадзім Гігін. На сайце агенцтва БелТА ён піша: "Какой-то самолёт, внешне напоминающий шведскую модель Jodel, действительно летал, по крайней мере, над Ивенцом. Это подтверждается и видеокадрами, и показаниями очевидцев. Но нет ни одного кадра, который бы зафиксировал пересечение границы".

## ДЗЕ МОЖНА АРАНДАВАЦЬ JODEL

А ў каментарах ідэолаг выкладае версію, якой, відаць, зараз прытрымліваюцца і ўлады: "Самолёт летал? Да. Пересекал границу? По имеющимся данным, нет". Намёк на тое, што самалёт "удзельнікі правакацыі" знайшлі ўжо недзе на тэрыторыі нашай краіны…

Цікава толькі, дзе ў Беларусі можна арандаваць шведскую мадэль Jodel ці хаця б іншы самалёт, які яе "внешне напоминает"? Ды яшчэ так, каб за тыдзень спецслужбы не знайшлі гаспадара авіяцыйнага сродку?

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## МАТ ЗАМЕСТ ДЫЯЛОГА

**Два дзясяткі рабочых з брыгад зборшчыкаў трактароў і кабін Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў 10 ліпеня напісалі заяву аб уступленні ў Свабодны прафсаюз, «пярвічка» якога дзейнічае на прадпрыемстве.**

Напярэдадні ў цэху зборкі трактароў гэтага завода дзве брыгады — зборшчыкаў трактароў і зборшчыкаў кабін — адмовіліся приступаць да працы.

— Прычынай канфлікту стала ўразанне нам прэміі на 45 працэнтаў, — паведаміў «Тут і цяпер» адзін з рабочых прадпрыемства. — Мы атрымалі разліковыя лісткі і былі шакіраваны, калі ўбачылі, што прэміяльныя зрэзалі амаль у два разы. На наша пытанне «чаму?» начальнік цэха адказаў, што гэта яго права, паабяцаўшы, што ў наступны раз нас пазбавяць прэміі ўжо на сто адсоткаў. У разліковым аддзеле нам сказалі, што ніякіх загадаў аб пазбаўленні прэміі да іх не паступала. План па зборцы трактароў мы перавыканалі — замест 94 сабралі на 24 адзінкі больш. Таму 9 ліпеня, мы знаходзіліся на працоўных месцах, але ў знак пратэсту да працы не прыступалі. Мы прыйшлі пагутарыць з намеснікамі дырэктара прадпрыемства, аднак дыялога не атрымалася. Нас аблажылі мацюкамі, паабяцаўшы, што ў нас узнікнуць праблемы на працы.

**ВАСІЛЬ КУЛІКОЎ**

# НАВОШТА НАМ ІЗНОЎ АЗЕРБАЙДЖАНСКАЯ НАФТА?

**На фоне няспынных беларуска-расійскіх пацалункаў-абдымкаў, клятваў у вечнай любові і вернасці вельмі дзіўна прагучала заява аб тым, што Азербайджан зноў гатоў пастаўляць нам нафту. Атрымліваецца,што ў абыход Расіі. Чаму так адбываецца, аналізавалі эксперты "Тут і цяпер".**


*Нафтавыя гульні працягваюцца*

**БАРЫС ЖАЛІБА, ЭКАНАМІСТ:**
### "ГЭТА БОЛЬШ ПАЛІТЫЧНЫ ХОД, ЧЫМ ЭКАНАМІЧНЫ".

— Я думаю, гэта палітычны фактар. Як вядома, з візітам напрыканцы жніўня прыбудзе прэзідэнт Азербайджана Аліеў. Гэта першае. Па-другое, усё ж такі наладжана схема паставак праз чарнаморскія парты да Мазыра,для нафтаперапрацоўчага завода,і яе можна выкарыстоўваць у неабходных сітуацыях. З эканамічнага пунктагледжання, гэтая нафта будзе занадта дарагой для нас, хоць і не такой дарагой, як венесуэльская. Праўда, трэба ўлічыць фактар дыверсіфікацыі паставак нафты ў Беларусь. Гэта будзе такі дадатковы довад для расіян: маўляў, калі ўзнікнуць нейкія цяжкасці з пастаўкамі расійскай нафты, то мы зможам пераключыцца на нафту азербайджанскую. Пакуль гэта ход выключна палітычны.А што тычыцца эканомікі, то час пакажа. Канечне, нам дастаткова сёння таннай расійскай нафты.

**ЯРАСЛАЎ РАМАНЧУК, ЭКАНАМІСТ:**
### "ДЛЯ НАШАЙ КРАІНЫ ГЭТА ДОБРА".

— Па-першае, нафтубудзем закупляць толькі тады, калі гэта задаволіць абодва бакі. Сёння гэтага пакуль яшчэ няма. Па-другое, для Азербайджана таксама вельмі выгадна будзе мець у Беларусі свой нафтаперапрацоўчы завод, пра які беларускі бок казаў яшчэ некалькі месяцаў назад. Адпаведнае рашэнне было прынята. І гэта будзе нафта азербайджанская, альбо казахская. Беларусь прапаноўвае сваю тэрыторыюбізнесменам з Азербайджана і Казахстана, каб рэалізавацьтакі праект. І вось яны ўжо будуць лічыць, наколькі добры для іх гэтыпраект. Для Беларусі ж гэта добра:чым больш у нашай краіне будзе такіх інвестыцый, тым будзе лепш. І грошай у бюджэце будзе больш, і працоўных месцаў. Трэба выкарыстоўваць сваё геаграфічнае становішча для таго, каб быць мостам паміж Усходам і Захадам. Якая тут палітыка? Эканоміка, безумоўна. І ў тым, што сёння Расія залівае нас нафтай, таксама значна больш эканомікі. І пакуль расійскі бок не заўважае гэтых "растваральнікаў", усё добра. Мы таксама на гэтым зарабляем. І расіяне зарабляюць. Але, калі гэта робіцца за кошт расійскага бюджэту, то з яго і так... па разліках прэм'ер-міністра Мядзведзева, крадуць больш за трыльён расійскіх рублёў.

**АФІЦЫЙНА**

Азербайджан гатоў пастаўляць нафту ў Беларусь, калі для беларускага боку будзе складвацца выгадная кан'юнктура, заявіў амбасадар Беларусі ў Баку Мікалай Пацкевіч.

«Пытанні паставак азербайджанскай нафты прынцыпова вырашаны. Азербайджан гатоў пастаўляць нафту ў Беларусь, калі будзе складвацца спрыяльная кан'юнктура», — адзначыў беларускі дыпламат.

Паводле яго слоў, гэта можа стаць найважнейшым фактарам дыверсіфікацыі імпарту нафты. Пацкевіч таксама нагадаў, што ў мінулым годзе Беларусь атрымлівала нафту з Азербайджана ў рамках своп-здзелак з Венесуэлай. «Сёлета такія пастаўкі не ажыццяўляюцца, усё вырашаюць пытанні эканомікі», — адзначыў пасол Беларусі ў Азербайджане.

**СВЯТЛАНА ГАЛІЦКАЯ, МЕНЕДЖАР:**
### "ГЭТА НЕ ДЫВЕРСІФІКАЦЫЯ, ГЭТА СПОСАБ ЗБЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НЕЛІКВІД".

— У нас ёсць усялякая нафта:і расійская, і венесуэльская, і нават беларуская. Чаму б не быць і азербайджанскай? Прыязджаюць паважаныя людзі, з якімі трэба пра нешта пагаманіць. Вось яны пра нешта і гамоняць, тыпу "давайце вы ў нас нешта купіце". Прычым, як правіла, гэта не спроба дыверсіфікацыі крыніц атрымання нафты. Гэта, хутчэй, спроба нешта "ўцюхаць" у адказ. Не памятаю, ці быў у нас туркменскі газ, але самалёт адтуль з'явіўся. І на ўсе нашы палкі-сукаваткі, трактары, грузавікі ды іншыя карысныя рэчы адразу заключаецца дамова. Супрацьлеглы бок, я думаю, не вельмі рады такім прапановам — "Ну, калі вы так настойваеце, то давайце купім". І такім чынам у нас узнікаюць "экзатычныя" кантракты — на пастаўку нафты з розных куткоў свету, на нейкае будаўніцтва ў розных кутках свету, засваенне радовішчаў і г.д. Што само па сабе, напэўна, не кепска і нават весела. Асабліва тым, хто гэтым непасрэдна займаецца. Вынайдзены такі спосаб падтрымання беларускай эканомікі. І калі ён працуе, то можна доўга не хваляваўца аб тым, каб МАЗы сталі якаснымі і нармальна прадаваліся. Навошта ажыццяўляць нейкія рэформы, калі можна гэтыя, далёка не лепшыя ў свеце грузавікі на нешта абмяняць абодамовіцца наконт "брацкіх" паставак? І няма каму гэтым заняцца, акрамя аднаго, самага чалавечнага чалавека, які думае за ўсіх і пра ўсіх. І пакуль збытам трактароў, бульбы і жаночай бялізны будзе займацца ён адзін, у нас будуць вельмі разнастайныя і экзатычныя кантракты.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ВЫКРУТАСЫ ВАКОЛ МЯДЗВЕДЗІКАЎ

Як і Міністэрства абароны, Гігін падкідвае думку пра несапраўднасць фота- і відэаматэрыялаў, на якіх адлюстраваны знакаміты палёт з мядзведзікамі. Але ў дадзеным выпадку больш цікавае меркаванне прафесіяналаў. Рэжысёр мантажу, якая палічыла за лепшае захаваць ананімнасць, распавяла "Белгазете":

—Можно было бы предположить, что это видео — фальсификация, если бы в нём не было никаких общих планов Беларуси, снятых с самолёта, но они есть! Видео кажется вполне реальным. Никаких явных признаков монтажа на нём нет…

Аналагічнай думкі прытрымліваецца нават генерал Юрый Сівакоў, якога ў апазіцыянеры ўжо ніяк не залічыш.

— Вельмі складана стварыць такую віртуальную карцінку, калі факта на самай справе не было, — заявіў былы міністр унутраных спраў і супрацоўнік Савета бяспекі ў размове з "Радыё Свабода".

Паводле слоў Сівакова, "усе чакаюць, калі паляцяць галовы, як пасля прызямлення Руста на Краснай плошчы".

## ЦІ БЫЎ ХЛОПЧЫК?

Аднак відавочна, што ўлады будуць выкручвацца да апошняга,бо прызнаць, што пілоты-аматары абвялі вакол пальца ўсю сістэму супраціўпаветранай абароны Беларусі — гэта, па-першае, выставіць сябе на пасмешышча, а па-другое — займець праблемы ў адносінах з Расіяй, якой шмат разоў абяцалі, што абароняць мяжу "саюзнай дзяржавы" ад любых замахаў. Вось і даводзіцца сцвярджаць аб "правакацыі", ухіляючыся ад наўпроставага адказу: быў хлопчык (самалёт з мядзведзікамі) ці не?

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# КРУГЛЯНСКІЯ БЮДЖЭТНІКІ СУПРАЦЬ ПРЫМУСОВАЙ ПРАЦЫ

Пра гэта карэспандэнту "Тут і цяпер" паведаміла былая супрацоўніца бюджэтнай сферы Круглянскага раёна Зінаіда Мілешчанка, цяпер пенсіянерка і грамадская актывістка. Яна і выступіла аўтарам адпаведнага звароту ў мясцовы райвыканкам ад імя тых, хто да яе звярнуўся.


*Для некаторых дзяржслужачых фермы – гэта зусім не весела*

## ТАКОЕ ВОСЬ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

"Да мяне звярнуліся па дапамогу некалькі бюджэтнікаў, якія паскардзіліся на тое, што іх пастаянна адпраўляюць на разнастайныя (у пераважнасці брудныя) работы. І пры гэтым ніхто не пытаецца ў іх згоды, — распавядае спадарыня Зінаіда. — Чыноўнікаў дробнага ўзроўню, а таксама настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў, рознага кшталту кантралёраў, банкаўскіх служачых прымушаюць прыбіраць сметнікі ў маланаселеных вёсках і наводзіць парадак на жывёлагадоўчых фермах".

Сапраўды, як стала вядома нашай рэдакцыі, у многіх раённых арганізацыях па распараджэнні раённых інстанцый і адміністрацый нават складзены асобныя графікі "накіравання людзей на работы па добраўпарадкаванні".

## ДНІ БЯЗВЫПЛАТНАЙ ПРАЦЫ

Разам з гэтым, як сведчаць заяўнікі, у раёне набірае сілу і такая ініцыятыва, як "дні бязвыплатнай працы". Механізм тут просты: розныя служачыя працуюць на сваіх працоўных месцах, але за пэўныя дні заробак не атрымліваюць. Заробкі пералічваюцца ў нейкі раённы фонд на адмысловы рахунак для далейшага выкарыстання (заўважце, без узгаднення з грамадскасцю) на "калектыўныя гаспадарчасацыяльныя патрэбы".

Вось таму і вырашана было мысцовымі актывістамі пазмагацца за правы бюджэтнікаў. На гэты дзень Зінаіда Мілешчанка атрымала з райвыканкама адказ, з якога сведчыць, што "ніякіх скаргаў" па пытанні, аб якім піша актывістка, "райвыканкам не атрымліваў ад супрацоўнікаў арганізацый і ўстаноў". Райвыканкам таксама запэўніў спадарыню Зінаіду, што "ў раёне строга кантралююцца пытанні выканання працоўнага заканадаўства".

## ЛЮДЗІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ БАЯЦЦА

На жаль, людзі насамрэч баяцца адкрыта звяртацца да ўлады са сваімі скаргамі і праблемамі, бо даўно ведаюць, што акрамя непрыемнасцей для сябе нічога не знойдуць — выставяць з працы і куды пойдзеш?! У такім невялікім раёне, як Круглянскі, працоўных месцаў няшмат, а ўжо такой раскошы, як мяняць месца працы, тут даўно ніхто дазволіць сабе не можа. Вось і спрабуюць людзі абаперціся на такіх, як Зінаіда Мілешчанка. Але што яна можа адна?

Вось гэта і варта было б даводзіць людзям, карыстаючыся тым, што бягучы год — год парламенцкіх выбараў, а значыць, у людзей ёсць магчымасць на больш актыўнае праяўленне сваёй грамадзянскай пазіцыі. Вось толькі ці пачуюць гэта людзі, якія за гады кіравання краінай першым, як ён любіць сам падкрэсліваць, прэзідэнтам прызвычаіліся да свайго бяспраўя і не вераць у тое, што могуць нешта змяніць. Ды і мяркуемы ці то байкот, ці то ігнараванне выбараў гэтаму не спрыяюць.

Добра, што ў гэта пакуль што верыць сама Зінаіда Мілешчанка. Дарэчы, яе наступны крок па адстойванні працоўных правоў служачых — зварот у Магілёўскі аблвыканкам, да старшыні Пятра Рудніка. Не больш як месяц назад ён актыўна расхвальваў Круглянскі раён перад самім кіраўніком краіны падчас высокага візіту апошняга. А той ківаў і пагаджаўся, што Круглянскі раён "развіваецца як нада"...

Але наўрад ці абодва кіраўнікі мелі на ўвазе практыку прымусовай працы, што існуе тут.

**ІВАН БАГДАНОВІЧ**

# ДАРОСЛЫЯ ГУЛЬНІ І ДЗІЦЯЧЫЯ БЕДЫ

**Спявак Герман Цітоў пайшоў на спатканне за 500 тысяч, дзяўчаты з групы "Топлес" — за 4,3 мільёна. Як зоркі, так і простыя людзі гатовы сустракацца з незнаёмцамі, прадаючы спатканні з сабой, толькі б дзецям жылося лепш.**



*Ўсё для хворых дзяцей*

Рамантычна-дабрачынны праект "Мае сэнс" дае магчымасць сумясціць вельмі прыемнае з карысным. Карэспандэнт "Тут і цяпер" таксама паспрабавала купіць чалавека.

Рамантычныя інвестыцыі

"Мяне купіла @ tbublikawa :)" — такі запіс пакінуў у твітары Дзяніс Васількоў, фатограф і бландын з Магілёва. Я яго купіла на аўкцыёне "Мае сэнс", змагаючыся рублём з некалькімі дамамі за магчымасць з ім сустрэцца. Ён радаваўся, і я таксама. Бо цяпер за 105 тысяч ажыццявіцца маё жаданне двухгадовай даўнасці — пайсці з Васільковым на спатканне. А ён у дадатак да гэтага атрымае "плюсік у карму". Сродкі ад аўкцыёну пойдуць на дапамогу хворым дзецям і дзецям-сіротам. Такая сутнасць праекта.

Беларускі інтэрнэт-аўкцыён "Мае сэнс" аб'ядноўвае юнакоў і дзяўчат, якія прадаюць сустрэчы з сабой. Людзі тут — лоты, на якія любы жадаючы можа зрабіць стаўку. Стаўкі бываюць зусім розныя: ад 5 тысяч да некалькіх мільёнаў. Усе сродкі ад здзелак ідуць на дапамогу дзіцячым дамам, бальніцам, хоспісам.

Праўда, дасціпны прыём: сустрэчам з красунямі і прыгажунамі (а лоты ў асноўным такія), якія матэрыяльна стымулююцца, праект надае высакароднасць дабрачыннасцю. І гэта працуе — за 8 месяцаў існавання праект "зарабіў" 332 мільёны рублёў.

За кожную капейку кіраўніцтва дае справаздачу ў блогу. Зусім нядаўна быў зроблены перавод на 32 мільёны рублёў на карысць трох дзіцячых устаноў. Бабіцкай школе-інтэрнату патрэбен сенсорны пакой, Магілёўскаму фонду дзяцей-інвалідаў з мастацкімі здольнасцямі пагражае высяленне па прычыне запазычанасцей па камуналцы, а ў Ваўкавыску дапамаглі з абсталяваннем кухні ў сацыяльна-педагагічным цэнтры.

## ЗОРНАЯ ПРЫНАДА

У праекце ўдзельнічаюць знакамітасці беларускага маштабу. Апошнім, хто "прадаўся", быў дзявочы гурт "Топлес". Спатканне з імі купіў Віталь Яцук за 4,3 мільёна. Гэта была яго адзіная стаўка і сустрэча. У выніку дзяўчаты павялі хлопца ў клуб TheBlackDoor, справаздача аб спатканні была змешчана ў сетцы.

У рубрыцы "эксклюзіўныя лоты" пабывалі Ларыса Грыбалёва, Герман Цітоў, удзельнікі гуртоў Litesound, Akute і іншыя.

## БЕЗ ПАЦАЛУНКАЎ АБЫХОДЗІЦЦА

Прызнаюся, калісьці даўно я хацела, каб выйграны мною лот быў мне не проста сябрам. Цяпер у кожнага з нас ёсць другая палавінка, і наша спатканне, якое пакуль яшчэ не адбылося, — гэта кропка тым старым марам. Першае пытанне, якое я задала Дзянісу, абмяркоўваючы будучую сустрэчу, было аб пацалунках. Не, цалавацца мы не будзем, хіба што ў лобік.

У Дзяніса Васількова гэта будзе другая сустрэча. Упершыню ён заплаціў грошы за спатканне з дзяўчынай, якой зацікавіўся падчас вучобы ва ўніверсітэце.

"Гэта было дзіўна, гэта было хутка, гэта было сумна, — успамінае набытую на "Мае сэнс" сустрэчу Васількоў. — Яна ва ўніверсітэце была малодшай за мяне на курс, але нешта не атрымлівалася з ёй перасекчыся, пагутарыць. А тут на сайце ўбачыў яе — яна была прыгожая. І я закінуў стаўку і выйграў, таму што таргоў больш не было. Мы пілі каву, размаўлялі. Яна аказалася вельмі сумнай дзяўчынкай: накшталт такой, у якой усё ёсць у жыцці, а ўсё ж няшчасная".

Больш яны не сустракаліся.

## АСАБІСТЫ РЭКОРД

20 мільёнаў, 17, 10 — на такія сумы аказалі дапамогу людзі, якія знаходзяцца ў спісе самых шчодрых наведвальнікаў сайта. У топ-10 самых шчодрых 3 дзяўчыны. Да прыкладу, Катрын К. "зарабіла" для праекта 10,5 мільёна. Гэта сума выплачаных ёю сродкаў і тых грошай, якія ўдзельнікі патрацілі на яе. Дзяўчына пры сустрэчы абяцае "нікога нічому не вучыць, не чытаць лекцыі аб жыцці і працы, не распавядаць казкі пра сябе і быць шчырай, лёгкай, вясёлай — быць самой сабой".

"Гэта ўсё цацка" — гаворыць аб праекце мой аднаразовы кавалер. Для яго "Мае сэнс" — гэта сістэма для занятых юнакоў і дзяўчат, якія любяць пагартаць карцінкі ў інтэрнэце, знайсці прыгожых, цікавых для сябе людзей і, магчыма, сустрэцца з імі. Адсотак пакупак знаёмых знаёмымі даволі высокі, што кажа на карысць тэорыі вялікай гульні.

"Аб дабрачыннасці я думаў у апошнюю чаргу, хаця мне вельмі прыемна, што нейкая капеечка ад мяне пойдзе на добрую справу. Тут ёсць пэўная доля фарысейства: ты, калі захочаш, можаш зрабіць добрую справу ў сотні разоў прасцей і эфектыўней", — кажа Дзяніс.

## ...ЯКАЯ ВАРТАЯ СВЕЧ

"Дзяўчына-птушка", як сама сябе называе Паліна Гамаюн, была заспета маім званком на мяжы з Украінай. Паліна ехала з нядаўна набытым "лотам" на чвэрцьфінал "Еўра-2012". "Лот" зваўся Генадзем, ён абышоўся ў 550 тысяч.

Паліна Гамаюн — актыўная ўдзельніца аўкцыёну. Яна сама "прадавалася" 4 разы, купляла 22. Агульная сума дапамогі — больш за 3 мільёны. Для Паліны на першае месца таксама выходзіць фактар гульні. Сур'ёзна дабрачыннасцю яна займаецца ў Магілёве, да прыкладу, уладкоўваючы акцыі для дзіцячага хоспіса.

"Калі я купляю лот, мне здаецца, што я ўжо дасягнула сваёй мэты: мы пагулялі, і ўжо можна заканчваць, сустрэча неабавязковая. Важна сама атмасфера спаборніцтва, аўкцыёну і гульні, таму людзі аддаюць грошы на дабрачыннасць лягчэй. Мала хто з іх перавядзе такія ж грошы на нечый разліковы рахунак, каб дапамагчы персанальна", — кажа рудавалосая красуня.

Дзяўчына лічыць, што ўнікальны беларускі праект мае поспех дзякуючы форме. Азарт, поспех, эмоцыі, якія перажываюць удзельнікі, дазваляюць ім лёгка развітвацца з грашыма.

**ТАЦЦЯНА БУБЛІКАВА**

# ЦІ З'ЯВЯЦЦА Ў БЕЛАРУСІ ПРЫВАТНЫЯ АХОЎНЫЯ АГЕНЦТВЫ?

І чаго ад іх больш — карысці ці шкоды? У гэтых пытаннях разбіралася “Тут і цяпер”.




*Ахоўнікі-прыватнікі – справа часу*

## АФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ НАПЯРЭДАДНІ ВЯЛІКІХ ПЕРАМЕН?

Не так даўно дэлегацыя беларускіх праваахоўных органаў з’ездзіла ў Калінінград — паглядзець, як працуе расійская паліцыя пасля рэарганізацыі сістэмы органаў унутраных спраў. Беларусы вывучалі ў тым ліку і досвед работы прыватных ахоўных агенцтваў, якія, згодна з расійскім заканадаўствам, нароўні з паліцыяй удзельнічаюць у забеспячэнні аховы грамадскага парадку, грузаў, прапускных рэжымаў.

Ці азначае гэта, што такія агенцтвы ў недалёкай будучыні з'явяцца і ў Беларусі? Адназначна адказаць на гэтае пытанне пакуль што складана. Сёння дзейнасць такіх структур знаходзіцца па-за законам. Аднак не выключана, што ім могуць даць зялёнае святло ў выніку рэформы міліцэйскай сістэмы, пра якую ў апошні час шмат гавораць.

*“На мой погляд, той жа Дэпартамент аховы не павінен быць атэставанай службай МУС*, — выказаў сваё меркаванне з нагоды стварэння прыватных ахоўных агенцтваў былы высокапастаўлены чыноўнік з МУС. — *Гэтая структура цалкам можа быць самастойнай арганізацыяй.*

*Што тычыцца аховы фізічных і юрыдычных асоб, суправаджэння грузаў, то тут таксама выдатна могуць працаваць прыватныя арганізацыі, дзейнасць якіх, па аналогіі з расійскім заканадаўствам, павінна быць рэгламентавана адпаведнымі заканадаўчымі актамі. Цяпер многія звальняюцца з органаў унутраных спраў у 45–50 гадоў, хтосьці нават раней. І прыватныя ахоўныя структуры, дэтэктыўныя агенцтвы — нармальны варыянт працаўладкавання для былых супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. Думаю, калі цяперашняе кіраўніцтва МУС падтрымае гэтую ідэю, то паслуга будзе запатрабавана юрыдычнымі і фізічнымі асобамі і з цягам часам попыт на яе толькі павысіцца.*

*У той жа час, як кажа Аляксандр Рыгоравіч, стварэнне такіх структур здыме з міліцыі неўласцівыя ёй функцыі. Міліцыя павінна на гарадскім узроўні займацца аховай грамадскага парадку, а на рэспубліканскім — змагацца з эканамічнай злачыннасцю, карупцыяй і іншымі відамі небяспечных для грамадства парушэнняў. А ўсё астатняе павінна быць перададзена ў прыватныя рукі”.*

**ЭКСПЕРТЫЗА**

## ЦІ ПАТРЭБНЫ НАМ ПРЫВАТНЫЯ АХОЎНЫЯ АГЕНЦТВЫ?

**ПЛЮСЫ АД АЛЕГА ВОЛЧАКА**

Былы следчы пракуратуры Алег Волчак вітае ідэю стварэння ахоўных агенцтваў.

— Калі ў выніку рэформы МУС будзе скарочана колькасць супрацоўнікаў, то такія арганізацыі здолеюць аблегчыць ім жыццё: людзі пасля звальнення са службы не застануцца без кавалка хлеба, — аргументуе сваё меркаванне Волчак. — У Расіі такія агенцтвы працуюць даволі паспяхова, прычым па розных напрамках: і ахова грузаў, і дастаўка абвінавачаных з калоній і турмаў у суд, прыватны вышук, відэаназіранне. І калі ў тэндары на аказанне ахоўных паслуг будуць удзельнічаць і дзяржаўныя, і прыватныя канторы, то ў людзей будзе выбар, куды звярнуцца, каго наняць у ахову.

Прыватным арганізацыям часам лягчэй збіраць нейкую інфармацыю, бо яны больш мабільныя. І іх работа, на мой погляд, магла б дапамагчы ў правядзенні папярэдніх расследаванняў. Паглядзіце: нават у расійскіх серыялах некаторыя прыватныя дэтэктывы паспяхова супрацоўнічаюць з работнікамі паліцыі па нейкіх справах. Лічу, што гэта цалкам нармальна. Прыватныя фірмы часам могуць гарантаваць кліенту больш, чым міліцыя ці паліцыя.

Быў здзіўлены, калі даведаўся, што ў Англіі абвінавачаных у суд з калоніі дастаўляе не дзяржаўная канвойная служба, а супрацоўнікі прыватнага агенцтва. Чаму б і нам не пераняць замежны вопыт?

**МІНУСЫ АД ГАРЫ ПАГАНЯЙЛЫ**

А вось вядомы праваабаронца і былы суддзя Гары Паганяйла перакананы, што беларускае грамадства яшчэ не гатова да з’яўлення прыватных ахоўных або дэтэктыўных агенцтваў.

— Вядома, у Расіі і ў шэрагу іншых дзяржаў дзейнічаюць ахоўныя і нават вышуковыя агенцтвы, куды грамадзяне могуць звярнуцца з просьбай аб расследаванні нейкіх спраў, ахове маёмасці, жыцця, — разважае Гары Пятровіч. — І ў дэмакратычных краінах, дзе наладжаны строгі кантроль за зброяй і кадравым напаўненнем такіх службаў, можна чакаць, што гэтыя арганізацыі будуць рабіць сваю справу нармальна. Але ж Беларусі да прававой дзяржавы яшчэ далёка, таму наўрад ці варта спадзявацца на тое, што такія агенцтвы будуць забяспечваць законныя інтарэсы грамадзян і арганізацый. Думаю, мы можам атрымаць яшчэ адзін таемны пласт супрацоўнікаў, якія нібыта клапоцяцца аб нашай абароне, а на самай справе збіраюць пра нас звесткі, лезуць у нашы справы, цікавяцца асабістым жыццём.

Калі дзейнічае закон, тады нармальна працуюць суды, дзе заўсёды можна абскардзіць беззаконне. А ў нас дзейнасць судоў небездакорная. І як у такіх умовах ствараць структуры, якія будуць дзейнічаць у прыватным парадку, прадстаўляць і абараняць невядома чые інтарэсы, і як гэта потым адгукнецца грамадзянам?

У нас армія вышукнікоў па сваім складзе і так большая, чым Міністэрства абароны. А мы ім яшчэ нейкія канторы ў дапамогу хочам стварыць! Дарэчы, працаваць туды, напэўна, пойдуць былыя работнікі міліцыі, пракуратуры. Такі “дах” дасць магчымасць дзейнічаць у інтарэсах пэўных кланаў, груп людзей. І калі мы кажам пра рэйдарскія захопы, кампраметацыю, то паглядзіце — ва ўсім гэтым немалаважную ролю могуць адыграць якраз такія службы. Таму нам да стварэння прыватных агенцтваў яшчэ трэба дарасці...

**МАРЫНА МІТ**

# НЕДАГАВОРАНАЕ. АПОШНЯЯ ГУТАРКА З СЕРЖУКОМ ВІТУШКАМ

**Апошні раз я хадзіла да Сержука Вітушкі некалькі месяцаў таму. Мы размаўлялі пра ўсё: пра ягоныя казкі, пра Вільню, пра беларусаў, пра Літву, пра майго сына, пра выхаванне дзяцей... Толькі пра хваробы ні слова, як заўжды. З ім было цікава - столькі розных ідэй, думак. Здавалася, так будзе заўсёды.**




Можа таму так і атрымалася. Сяржук патэлефанаваў і стаў распытваць пра электронныя кнігі і бібліятэкі, мы дамовіўся, што я прыйду да яго і раскажу падрабязней. Трэба было спяшацца выканаць абяцанне, а я пра гэта не ведала. І не паспела. Даруйце, Сяржук.

Вось што казаў Сяржук Вітушка ў нашу апошнюю сустрэчу.

**ПРА КАЗКІ**

- Сёння, на жаль, многа літаратуры, якая нібыта дзіцячая, з яркімі малюнкмі, але ўсё гэта такое нежывое, сю-сю-сю, зайчык-папрыгайчык. Усе былі харошыя, а сталі яшчэ лепшыя. Трэба, каб было рэальнае жыццё. Страсці кіпелі сапраўдныя, крывя лілася ракою... (смяецца) . Чаму дзеці так хутка пераходзяць чытаць якіх "Трох мушкецёраў" ці Вальтэра Скотта, ці Жуль Верна? Бо там ужо дзейнічаюць жывыя людзі са сваімі страсцямі, нежартоўнымі прыгодамі, і пасля гэтага дзецям ужо нецікава чытаць так званыя дзіцячыя "штучкі".

- Кніжку казак хацеў назваць "Піраміды". Бо ў іх прыгоды герояў як калечкі на пірамідку дзіцячую нанізваюцца. Пасля пра Маўродзі з ягонымі пірамідамі падумалася – і адмовіўся.

**Паслухайце, як расказвае Сяржук Вітушка, для каго і як ён пісаў свае казкі.**

**ПРА ЖЫЦЦЁ**

- Дзеці, яны цікавыя. У маладосці пра дзяцей не думалася: так мы былі закаханыя ў сябе, у свой узрост, у свае справы. Пасля... праца ў школе (беларуская школа ў Вільні. Вітушка пэўны час выкладаў там гісторыю – Л.Ш.), бацькоўства нечакана мяне захапілі.

- Парада маім сябрам-землякам: не будзьце гультаяватымі бацькамі, надавайце увагу дзецям, выхоўвайце іх – не пашкадуеце.

- Сем'і павінны быць вялікімі. Адзін дзіцёнак - не дзіцёнак, а два дзіцяці - гэта толькі поўдзіцяці, а тры дзіцяці - толькі тады дзіцё. Адно дзіця вельмі хутка прывыкае, што і тата, і мама, і адна бабуля, і другая, і хросныя бацькі - і усё яму, і падарункі, і дзяліцца ні з кім не трэба, і потым гэта ой як цяжка на характары адбіваецца...

- У нас цяпер з сястрою настолькі памяняліся адносіны... Было як: ну сястра і сястра... Яна старэйшая. Бывала, злавалася, што я за ёй хвастом хаджу, нібыта падглядаю (усьміхаецца)... А цяпер мне такая дапамога з ейнага боку, менавіта як ад сястры. Недарэмна, медсястра называецца сястрой, а не інакш. Сястра, брат - гэта вельмі важна па жыцці.

**ПРА НАС, БЕЛАРУСАЎ**

- Зайздросціш якім-небудзь палякам ці рускім: у іх няма канфлікту з-за мовы, у іх няма канфлікту з-за сцяга, з-за дзяржавы. У іх ёсць такія нейкія рэчы дзе яны могуць паразумецца. Вось ёсць тут адна амбасада Расіі (у Літве – Л.Ш.). І на Дні рускай культуры, на Дні Незалежнасці – усе там жаданыя госці. А ў нас так няма. У нас тыдзень беларускай культуры - на адзін дзень незалежнасці (25 сакавіка – Л.Ш.), а потым 3 ліпеня будзе тыдзень другой беларускай культуры. І гэта шызафрэнія такая... Гэта ж усё наша, землякі, радня. І гэта так даўно доўжыцца. Крыўдна. Вось за гэта крыўдна.

- Колькі выпадкаў нялюдскіх адносінаў на глебе палітыкі, эканомікі - гэтага не павінна быць. Заўсёды былі і будуць нейкія канфлікты міжчалавечыя, асабістыя, нейкая здрада, крыўда... Але можна дабівацца таго, каб у грамадстве было больш-менш пэўнае паразуменне, гармонія.

- Ёсць людзі, якія перабываюць у сваёй праўдзе, ім утульна ў сваім свеце, і яны нічога не хочуць ведаць. І даволі агрэсіўныя: нам не трэба вашай праўды, і іншым не трэба, і не чапайце вы нас.

- Я веру, што ў маім грамадстве такіх людзей не большасць, што ёсць дастаткова людзей разумных, якія хочуць чуць тую праўду, шукаць праўду, гаварыць праўду, ствараць праўду. На іх і трэба арыентавацца, і самаму ствараць вакол сябе кола праўды, і потым з гэтых асяродачкаў яна будзе пашырацца.

- Глядзі, новае пакаленне жыве ў новых умовах. Раней у краме з паліц хапалі ўсё запар, выбару не было. А цяпер - усё ёсць, можна выбраць. Напрыклад, мадэль тэлефона – магу выбраць, што захачу. Маладое пакаленне і выбірае. Прывыкае выбіраць. Потым яно захоча выбраць сабе і ўладу.

**ПРА СЯБЕ**

- У здаровым целе – здаровы дух. У нездаровым целе – нездаровы дух? Дык вось не! Дух – тое, што залежыць толькі ад мяне. Сама хвароба штурхае да аптымізму, гумару.

- Дзякаваць Богу, што не страціў цікавасці да жыцця. Мне здаецца, гэта базавы інстынкт – цікавасць да жыцця. Мне пашчасціла, што заўсёды было многа сяброў, была "Талака", грамадскае жыццё, было нармальнае дзяцінства – гэта штурхае быць нармальным.

**ЗАПІСАЛА ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА**

# ЯК АДНА ВЁСКА Ў КЛІМАВІЦКІМ РАЁНЕ ПЕРАМАГЛА ЎЛАДУ

**Нядаўна ў Клімавіцкім раёне ў вёсцы Паўлавічы Аляксандр Балобін за два дні сабраў больш як два дзясяткі подпісаў за рамонт і асвятленне трох вясковых вуліц. Папярэдняя акцыя грамадзянскай актыўнасці, што адбывалася тут увесну, і заняла ў маладога чалавека амаль месяц.**

## "ХТО ВАМ ЗАПЛАЦІЎ ЗА ПОДПІС?!"

А тычылася яна рамонту аўтадарогі, што праходзіць праз Паўлавічы. Усе аднавяскоўцы пагаджаліся з маладым неабыякавым хлопцам у тым, што дарога патрабуе рамонту, але да прапановы звярнуцца з гэтай праблемай у райвыканкам людзі ставіліся спачатку даволі скептычна. Маўляў, пры вырашэнні такіх пытанняў, якія "патрабуюць сродкаў і ўключэння ў план", ніякія подпісы не дапамогуць. Аляксандр не ўступаў і ўрэшце пасля спрэчак, абмеркаванняў і тлумачэнняў накшталт "ляжачага каменя і вады" здолеў больш чым за месяц усё ж сабраць подпісы пад зваротам у райвыканкам за рамонт дарогі ад некалькіх найбольш неабыякавых землякоў. У красавіку А.Балобін перадаў паперу ў аддзел па зваротах грамадзян Клімавіцкага райвыканкама.

Рэакцыя ўлад аказалася нават не такой, як папярэджвалі вясковыя скептыкі, то бок знаўцы жыцця. Такога, як кажуць, ніхто не чакаў і чакаць не мог: у вёску ў адказ на зварот прыехалі... міліцыянты. Яны мелі адрасы ўсіх "падпісантаў" і наведалі кожную хату, старанна запісваючы ў сваіх нататніках "прызнанні і тлумачэнні грамадзян" наконт таго, ці сапраўды яны ставілі свае подпісы пад лістом у райвыканкам і хто іх да гэтага падштурхнуў. На аперацыю "высвятленне асоб" ў міліцыянтаў пайшло цэлыя 3 дні: цікава было б ведаць, а ці не здарылася чаго крымінальнага ў раёне за гэтыя ж дні, пакуль міліцыянты былі заняты "паўлавіцкім расследаваннем". Тым больш што адным з гэтых дзён было 1 Мая, якое, як любое іншае свята, павінна асабліва абвастраць міліцэйскую пільнасць. На жаль, даведацца пра гэта не ўдалося — "службовая тайна".

Засталося невядома і тое, з якой мэтай да гэтай справы прыцягнулі міліцыю. Аднак у выніку не абышлося і без пэўнай карысці, бо сапраўднасць подпісаў вяскоўцаў была пацверджана з абсалютнай дакладнасцю, так бы мовіць, прафесійна. Хаця выканкамаўскі разлік, як няцяжка здагадацца, быў не на гэта. Логіка чыноўнікаў простая: людзі, забаяўшыся міліцыянтаў, пачнуць адмаўляцца ад подпісаў, і іх заяву можна будзе "закрыць як несапраўдную".

> "Як гаворыцца, вось ён выпадак, калі самі чыноўнікі сталі ахвярамі бессаромнай дзяржаўнай прапаганды ў бок "пятай калоны", "так званай апазіцыі" і ледзь ці не "ворагаў народа". А наколькі ўсё прасцей і нармальней!"

*Барацьбой за свае правы можна дасягнуць многага. У тым ліку, і нармальнай дарогі*

## ПРА "СВЯТОЕ"

Але так не атрымалася, а тут яшчэ і завадатар Аляксандр Балобін здолеў датэлефанавацца ў аблвыканкам са скаргай на тое, што мясцовае чынавенства парушае тэрміны адказу на звароты грамадзян. Трэба сказаць, што пэўныя рэчы ўлада вытрымлівае бездакорна, да такіх адносяцца і звароты грамадзян, дакладней, тэрміны адказаў на звароты і скаргі. Нярэдка гэтыя адказы не больш як адпіскі, але тэрміны для чынавенства — "святое". З аблвыканкама, відаць, прыляцеў у Клімавічы "вокрык"...

Праўда, амаль праз месяц у вёску ўсё ж такі прыехалі дарожныя работнікі. Зрабілі рамонт, хоць і частковы — засыпалі самыя вялікія яміны, там-сям паклалі асфальт (тут вясковыя скептыкі аказаліся сапраўды прадбачлівымі). Такім чынам, паўлавіцкія жыхары здолелі дамагчыся свайго.

**ГІСТОРЫЮ ЗАПІСАЎ ВІКТАР ВОЙТ**

**ДАРЭЧЫ**

## ТРЭБА НАСТОЙВАЦЬ НА ПАТРАБАВАННЯХ ЦВЁРДА

**Вось як каментуе гэты выпадак выдавец клімавіцкай свабоднай газеты грамадскі актывіст Сяржук Аржанцаў:**

— Мне даводзілася бываць у Паўлавічах і на свае вочы бачыць занядбаны стан той самай аўтадарогі. Таму разумею і падтрымліваю мясцовых жыхароў, якія ўрэшце звярнуліся з гэтым пытаннем у райвыканкам. Але раённыя кіраўнікі спачатку адрэагавалі на іх зварот зусім неадэкватна — маўляў, як гэта так, каб нашы людзі самі па сабе праявілі нейкую актыўнасць?! Не інакш як іх нехта падбухторыў на гэта, а таму такую "крамолу" трэба зішчыць у корані. Адсюль і накіраванне ў вёску міліцыянтаў. Дарэчы, тыя пыталіся ў некаторых грамадзян, ці прапаноўвалі ім грошы за пастаўлены подпіс. Такіх фактаў выяўлена не было, бо іх не было і быць не магло ў прыродзе. Але варта звярнуць увагу на гэты дзіўны чыноўніцкі стэрэатып успрымання людской актыўнасці. Як гаворыцца, вось ён выпадак, калі самі чыноўнікі сталі ахвярамі бессаромнай дзяржаўнай прапаганды ў бок "пятай калоны", "так званай апазіцыі" і ледзь ці не "ворагаў народа". А наколькі ўсё прасцей і нармальней!

Вось аб чым, на маю думку, сведчыць паспяховы збор подпісаў за асвятленне вуліц у тых жа Паўлавічах. Ліст з больш як 20 подпісамі вяскоўцаў зарэгістраваны днямі ў райвыканкаме за нумарам 138-3-1. І гэтым разам людзі перакананы, што выканкам больш не нашле на іх міліцыянтаў, а адразу — ну, як мінімум да восені, калі рэзка сцямнее, — прышле ў вёску электрыкаў.

# АЛІМПІЯДА-2012: 15 МЕДАЛЁЎ МАКСІМУМ!

**З 27 ліпеня па 12 жніўня ў Лондане пройдуць Гульні XXX летняй Алімпіяды. Паводле планаў айчынных спартыўных чыноўнікаў вышэйшага звяна, у сталіцы Вялікабрытаніі беларускія атлеты павінны заваяваць 25 медалёў, пяць з якіх — залатыя. Задача недасягальная і маларэальная.**

У аўторак, 10 ліпеня, Аляксандр Лукашэнка, даючы наказ спартсменам перад XXX Алімпіядай, цалкам трансфармаваў лозунг біскупа Пенсільванскага/дэ Кубертэн, заявіўшы: "У спорце бывае ўсё, але толькі не на Алімпійскіх гульнях. Да Алімпійскіх гульняў чалавек рыхтуецца і рыхтуе ўсе рэзервы, якія ў яго ёсць. Галоўнае не ўдзел, а перамога. Вось вам мой наказ ад імя беларускага народа".

Дарэчы, грошы за алімпійскія медалі плацяць цяпер больш чым прыстойныя. У тым ліку і ў Беларусі. Так, "золата" Лондана зробіць беларускага спартсмена багацейшым на 150 тысяч долараў ЗША, "срэбра" — на 75 тысяч, "бронза" — на 50 тысяч. Годныя грошы за неймаверную працу, упартасць і імкненне дасягнуць пастаўленай мэты. Пажадаем кожнаму са 175 нашых атлетаў, якія накіроўваюцца на Алімпіяду, стаць багацейшымі пасля Гульняў на 150 тысяч "вашынгтонаў"!

Зрэшты, за бюджэт дзяржавы, імя якому Рэспубліка Беларусь, можна, у прынцыпе, не хвалявацца. Давядзецца, вядома, раскашэліцца на выплаты прызавых, аднак сума не будзе надта вялікай. Ну а чыноўнікі з тым жа поспехам маглі б паставіць задачу выйграць 30 або нават 40 медалёў.

Хаця і 25 узнагарод — відавочны перабор, паколькі падстаў для іх заваёвы няма. Магчыма, спартовым функцыянерам гэтая лічба проста падалася прыгожай. Магчыма, яны хацелі дагадзіць кіраўніцтву НАКа. Магчыма, у іх меліся іншыя, вядомыя толькі ім, прычыны.



*На гэтай Алімпіядзе будзе несамотна!*

Аднак 25 беларускіх медалёў у Лондане дакладна не будзе. Як не будзе і пяці залатых — у лепшым выпадку тры-чатыры ад сілы.

Па-першае, спорт непрадказальны. І ў гэтым яго асноўнае хараство і прывабнасць. Нават асуджаных на перамогу фаварытаў часам пільнуюць няўдачы.

Па-другое, чатыры гады назад у алімпійскім Пекіне беларускія спартсмены, заваяваўшы 19 узнагарод, скокнулі намнога вышэй за сваю галаву. Тое, адкуль "намалюоцца" яшчэ 6 (па сутнасці, трэціна медалёў), пакрыта лонданскім туманам. Які, трэба прызнаць дзеля справядлівасці, летам горад над Тэмзай накрывае даволі рэдка.

Па-трэцяе, многія з беларускіх медалістаў Пекіна-2008 за мінулыя чатыры гады не толькі набраліся вопыту, але і пасталелі...

Таму рэальны "медальны" прагноз на Гульні ў Лондане — 15 медалёў максімум. Рэальна ж Беларусь мае права разлічваць на 12–14 узнагарод у лёгкай і цяжкай атлетыцы, веславанні, кулявой стральбе, мастацкай гімнастыцы, плаванні, барацьбе і, не выключана, у тэнісе — балазе, Вікторыя Азаранка ўзначальвае рэйтынг WTA, а Максім Мірны — першая ракетка ў парным разрадзе.

А яшчэ вельмі хацелася б, каб Кацярына Карстэн, для якой маючая адбыцца Алімпіяда стане шостай (!) у кар'еры, вярнулася б з Лондана з медалём. Няхай нават, як і ў Пекіне, з бронзавым.

Але калі беларусы возьмуць на Гульнях запланаваныя 25 медалёў ці нават больш, то ніхто, зразумела, не засмуціцца. Хварэем за нашых!

**НІК ВІКТАРАЎ**

**ДАРЭЧЫ**

На двары 21-е стагоддзе, таму дэвіз "галоўнае — не перамога, а ўдзел", які памылкова прыпісваецца бацьку сучасных Алімпіяд французскаму грамадскаму дзеячу барону П'еру дэ Кубертену, сёння зусім не актуальны. Насамрэч першым гэтую крылатую фразу вымавіў біскуп Пенсільванскі падчас набажэнства ў лонданскім саборы Святога Паўла. Звяртаючыся да паствы 19 ліпеня 1908 года, ён прыгадаў адзін з драматычных эпізодаў IV Алімпійскіх гульняў (якія, дарэчы, таксама праводзіліся ў Лондане), калі італьянскі марафонец Дора П'етра выдатна прабег 42 км 195 м, але ўпаў перад самай фінішнай стужкай.

З гадамі гэты дэвіз зведаў сур'ёзныя змены, ды і Алімпійскія гульні сталі падобныя на старажытнарымскія гладыятарскія баі, хіба што лёс тых, хто прайграў, не вырашае падняты да неба або апушчаны да зямлі вялікі палец рукі.



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 12.07.12
Тыраж 299 экзэмпляраў